НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Резонанс*

# Правда о Хатыни

**Под таким заголовком 20 марта была опубликована статья ученого секретаря Белгосмузея Великой Отечественной войны Аллы Ванькевич, в которой она осветила новые, малоизвестные факты из истории Хатыни. А вскоре редакция получила отклики на статью. Авторы с Аллой Ванькевич не соглашались. И даже обвиняли ее в приверженности старому времени, когда пафос был важнее истины. Хатынь — святое и дорогое место для сердца каждого белоруса. Поэтому мы решили опубликовать эти письма, чтобы читатель сам разобрался, где же правда.**

## Пропагандистская машина не хотела разворачиваться на сто восемьдесят градусов

Уважаемая госпожа А.Ванькевич!

Увидев статью "Правда о Хатыни", подписанную вами, я и в самом деле подумал, что вы, автор широко известного путеводителя по Хатынскому мемориалу, решили покаяться и сказать правду о Хатыни, ибо, как это ни прискорбно, в вашем путеводителе, написанном в благостно-застойные времена и имеющем хождение и ныне, правды ровно столько, сколько ее было во всей нашей жизни.

Но меня ожидало полное разочарование. Советский историк действительно устроен столь странным образом, что для него даже раскрывшиеся архивы, заговорившие во весь голос свидетели, судебные процессы над личностями такого типа, как Г.Васюра, который был главным распорядителем и постановщиком кровавой трагедии в Хатыни, — никакие не доказательства. Хотя, казалось бы, ученому секретарю военного музея, создавшему красивую легенду о хатынском пепелище, только и надо было взять в руки обвинительное заключение военного суда и навсегда забыть о сказках сорокалетней давности из райкомовской газеты.

Свидетели — малые дети, оставшиеся в живых, уже зрелыми людьми в 1986 году взглянули в холодные и спокойные глаза убийцы Васюры.

Я понимаю, что пропагандистской машине было трудно развернуться на сто восемьдесят градусов после процесса над истинными виновниками гибели Хатыни и сказать миру кто есть кто. Мемориал "переваривал" в ту пору миллионы посетителей, был включен в международные туристские маршруты, в ритуальный дипломатический протокол для иностранных делегаций.

Хотя судебный процесс был закрытым и даже не разрешалось вести на нем съемку, правду о невинно убиенных не немецкими фашистами, не дерливангеровцами, а нашими соотечественниками узнали все. Впрочем, наши соотечественники — заплечных дел мастера — практиковались в этом ремесле задолго до Хатыни и васюровцев. Летом 1988 года рванула долго лежавшая на окраине Минска у дороги в Хатынь "бомба" — Куропаты... Сама дорога в Хатынь сразу приобрела почти фантомный смысл: дорога в ад беззакония и глумления над элементарными правами человека.

В накаленный политическими страстями зал, которому уже были известны обличительные публикации "Огонька", "Известий", "Комсомольской правды" и других изданий и судебные процессы между сталинистами и их оппонентами, была брошена и Правда о Хатыни. И произвела она там, в ближнем зарубежье, как теперь мы это именуем, эффект немалой силы. Но все тихо по-прежнему было в Беларуси. Иностранные делегации по заведенному годами порядку продолжают возить в Хатынь, пичкая суррогатом информации из путеводителя...

Зачем же мы держимся за старое, когда доказано, что это неправда?

Фотокорреспонденту Юрию Иванову удалось на том процессе сфотографировать Васюру. Страх смерти уже сковал это лицо. Как бы он желал для себя хоть маленькой спасительной лжи. Но жизнь требует только правды и ничего, кроме правды.

**Анатолий ВАРАВВА.**





Годами людей мучил вопрос: кто сжег Хатынь? Не меньше он мучил и старого Каминского, называвшего поджигателей зверьем. Вглядитесь в это лицо, это и есть главный поджигатель Хатыни Васюра. И в глазах, и в чертах его и в самом деле есть что-то звериное...

**Фото Юрия ИВАНОВА и фоторепродукция Сергея ГРИЦА.**

## От такой "правды" страшно умирать

Мы, оставшиеся в живых хатынцы Владимир Яскевич, Виктор Желобкович, Александр Желобкович, внимательно прочли статью и огорчены, что автор не сочла нужным встретиться с нами, живыми свидетелями трагедии. Возможно, разговор с нами позволил бы более ответственно отнестись к описанию событий пятидесятилетней давности. Так что же нового хотела сказать Алла Ванькевич в этой статье? Что Хатынь сожжена немцами, что люди в неимоверных муках сгорели живьем — это известно с 22 марта 1943 года всей Беларуси, а чуть позже всему миру, так как слово Хатынь звучало и на Нюрнбергском процессе. Автор жалуется, что трудно было осуществить "поиск материалов о Хатыни" (и это в 1966 году?), что много пришлось работать в фондах музея и искать свидетелей. А надо было только приехать в ближайшую деревню, встретиться с людьми, которые были очевидцами трагедии и знали все об оставшихся хатынцах. Тогда бы и версия о том, что Иосиф Каминский не был в горящем сарае, что он лгун и мошенник, не возникла бы. Его рассказы были искренними, он никогда не говорил, что отсутствовал в это время в деревне. Но человека сейчас нет в живых, и он за себя постоять не может. Да и не по-христиански это — волновать ушедших.

А Вы, Алла Ванькович, где искренни и достоверны? В 1973 году Вы писали: "Третий свидетель хатынской трагедии — Иосиф Иосифович Каминский. Израненный, обгоревший, он нашел среди трупов односельчан изувеченное тело своего сына Адама..." (путеводитель по мемориальному комплексу). А сегодня пишете, что Каминский "возвратился в пылающую деревню, когда каратели уже отъезжали".

Хотелось бы подчеркнуть, что кривотолки вокруг Каминского с чьей-то подачи появились только после его смерти. Был уже Еськов, утверждавший, что чуть ли не Каминский привел в деревню немцев, чтобы сжечь ее жителей, в том числе и свою семью.

Только система спасла его от возбуждения дела о клевете в суде, на котором мы настаивали в семидесятые годы. Его лишь освободили от должности главного инженера мемориала. И вот вновь та же история.

Вы, Алла, так разбередили душу, что стало страшно умирать. А вдруг найдутся очередные "откапыватели правды", от которой будут сгорать от стыда и горькой обиды людские сердца? Конечно, мы были детьми и не виноваты, что нас не сожгли в 8—12 лет. Но знайте одно: Иосиф Каминский горел в сарае вместе со своими односельчанами. На четвертые сутки после трагедии я видел его лично и навсегда запомнил обгоревшим, с выбитой челюстью, раненного в плечо.

**От имени хатынцев Александр ЖЕЛОБКОВИЧ.**

*г.Гродно.*

## Встречу с Каминским не забываю

Я историк по образованию. И очень горько сознавать, что только историю древних и средневековья приходится принимать так, как записано в документах и статьях, а все остальное, особенно "советский период", представляет собой разночтение. Трудно докопаться до истины.

Мы жили в 60—70-х годах в Новополоцке, а родители в деревне Червенского района Минской области. По Логойскому шоссе ездили часто. И вот однажды родственник из Минска говорит: "За Логойском идет строительство мемориала. У нас все об этом только и говорят. Заедьте". Заехали. Была построена первая очередь: срубы со звонами, крыша сарая, памятник старику с ребенком на руках. Приезжих таких, как мы, много. Уже был экскурсовод. Но кто-то указал нам на старика. Это был Иосиф Каминский. Мы пошли за ним.

Вот его рассказ, который я записала слово в слово.

"Лагойская шаша — лес ля самай дарогі. Немцы выганялі жыхароў з вёсак на высечку лесу. Баяліся партызан. Раніцай з Хатыні выгналі сялян да дарогі, паставілі варту, а самі паехалі. Прыйшлі партызаны, забілі варту, а сяляне разбегліся. Я ў той час быў у кузні. Мая сям'я: жонка, сын ды з Мінску прыехала дачка з дзіцем. І наляцелі карнікі. Гоняць мяне з кузні. А каля майго двара падвода рабаўніцтва. Выносяць з маёй хаты швейную машынку. Жонка галосіць. Дачка хоча дзіця апрануць, а яе штурхаюць і прыгаворваюць: "Ідзі, матка, ідзі так, гэта хутка будзе". Сагналі нас у хлеў на ўскраіне вёскі і запёрлі. Хутка мы адчулі, што гарым. Лямант, роспач! Дзе жонка, дзе дачка з дзіцем, дзе сын — не ведаю. Вароты ў хляве выламалі, бягуць, а немцы страляюць. Каб вы бачылі, людцы мае добрыя, чалавек бяжыць і гарыць, як пень, а па ім б'юць. Усе назад. Я прабіўся да супрацьлеглай сцяны, а там сынок. Падсабіў я яму падняцца на страху, ён на другі бок пералез. Чую страляюць. Забіў сыночка?! Я таксама лезу. Ужо сцямнела. Усё гарыць. Вываліўся. Пазабіваных, якія вылазілі, шмат. Закаціўся ў лажбінку — сын, Адасік мой! Кішачкі вываліліся. Я іх збіраю, збіраю, снег пад галоўку грабу, а ён просіць: "Піць... піць..." Не пазнае мяне. Падняў я яго аднесці далей. Хлеў яшчэ гарыць. Ідуць карнікі. Я ляжу, як мёртвы. Абцасам бота мне па твары! Вось бачыце, у мяне ніводнага зуба няма. Думаеце, стары? Гэта выбілі тады — я змаўчаў. Калі ўначы ўсё сціхла, я папоўз, пасля пайшоў у суседнюю вёску. Дзеткі мае, каб вам ніколі не давялося перажыць таго, што нам".

Плачет и говорит старый Каминский, гладит по головкам моего сына и других детей, которые притихли около него.

Позже я много раз привозила в Хатынь на экскурсии ребят. Были экскурсоводы хорошие и разные, был уже до конца отстроен мемориал, был ресторан "Партизанский бор" с прекрасной кухней. Все было величественно, торжественно. А вот первый свой приезд и встречу с И.Каминским не забываю.

Слышали Каминского многие, не только я. Значит, то, что записала, имело место. Такое не придумаешь. Почему же у автора статьи иначе? Какой смысл было старому Иосифу сочинять легенду, если это ему ничего не сулило и не обещало ни большой пенсии, ни Звезды Героя?

**Мария ЗАЛИВСКАЯ, преподаватель Витебского политехникума.**

*Все точки над "і"*

# Так кто же прав, кто виноват?

**Лилия ЛОМСАДЗЕ**

Почему история Хатыни так разноречива в статье Аллы Ванькевич и письмах читателей? Где истина? Эти вопросы мы решили задать человеку, в задачу которого входило восстановить трагедию деревни 22 марта даже в минутах, председателю военного трибунала на процессе 1986 года Виктору ГЛАЗКОВУ.

— В угоду идеологическим постулатам наша история напоминает кривое зеркало, — рассказывает Виктор Васильевич.— Но всегда появляется время, когда люди спешат очиститься от слоя лакировки и лицемерной лжи. Семь лет назад мы могли всему миру поведать правду, которая была такой жестокой и звучала на суде. Процесс был открытым, а в зал заседаний военного трибунала пускали не всех. Бывший заведующий идеологическим отделом ЦК КПБ С.Павлов самолично "сортировал", кому из журналистов присутствовать, а кому нет. Только два корреспондента были допущены: из БЕЛТА — Евгений Горелик, из "Известий" — Михаил Шиманский. Но в "Известиях" не было опубликовано ни строки, хотя очерк стоял в номере. Руку к тому, чтобы материалы о Хатыни не опубликовались, приложили первые лица двух республик — Беларуси и Украины — Слюньков и Щербицкий. Судя по неопубликованному материалу в "Известиях", бывший член Политбюро ЦК КПСС Щербицкий был осведомлен, что 118-й карательный батальон, уничтоживший Хатынь, сформирован в Киеве, а главный заправила Васюра — украинец. Решил, что это скажется на отношениях двух республик. Тем более работал Васюра заместителем директора крупного совхоза в Киевской области, слыл преуспевающим номенклатурным деятелем районного масштаба, снабжал Киев овощами. Жил припеваючи, двум дочкам-учительницам отстроил терема. Как фронтовика-связиста, роль которого он играл, его даже зачислили почетным курсантом одного из киевских военных училищ и к каждому Дню Победы награждали ценными подарками.

А на самом деле — Иуда. Попав в плен, Григорий Васюра, начальник связи укрепрайона 67-й стрелковой дивизии, перешел на службу к фашистам. Прошел учебу и стал начальником штаба 118-го полицейского батальона, сформированного для борьбы с партизанами. В его составе русские, белорусы, украинцы — бывшие военнослужащие. Носили немецкую форму, имели звание и двойное подчинение, поэтому многие и называли их немцами. Расстреливали жителей Киева в Бабьем Яру, зверствовали на территории Польши. Командовали батальоном немец Эрих Кёрнер и поляк Константин Смовский. **И вот эта правда, что Хатынь жгли доморощенные палачи, бросала тень на внешний лоск социалистического образа жизни и громко декларируемую дружбу народов.** Васюра руководил многими карательными операциями, жег и расстреливал деревни Чмелевичи, Котели, Заречье, Боброво, Осовы, Маковье, Уборье.

Истории Хатыни предшествовала бездумная вылазка небольшой группы партизан, человек 5—6, из отряда, базировавшегося в окрестных лесах. Операция их была мелкой и малозначащей, а расплатиться за нее довелось большой кровью.

Позавтракав в Хатыни, без согласия командования, партизаны совершили вылазку на шоссе Логойск—Плещеницы. Напротив деревни Козыри повредили линию связи. В Логойске квартировал карательный батальон "Черная смерть", в Плещеницах — 118-й карательный полицейский батальон. Связь между ними прервалась, и чтобы устранить обрыв, связисты Дерливангера отправились на поиск поврежденного участка. Ни сам Дерливангер, ни его люди в карательной операции не участвовали. В то же время из Плещениц в Минск выехал шеф третьей роты 118-го батальона Ханс Вельке — он собрался в отпуск. Был любим Гитлером как человек и золотой олимпийский чемпион 1936 года по толканию ядра. По сути, он был первым немцем, победившим в этом виде легкой атлетики, Германия им гордилась. От фюрера он и получил офицерский чин. Партизаны поджидали в засаде связистов и ударили по легковому авто в сопровождении грузовика, не ведая, что убили Вельке. В бой они ввязываться не стали и скрылись в лесу. Прибыли связисты, устранили обрыв линии и мгновенно доложили в Плещеницы о вылазке партизан. По тревоге 118-й батальон вызвали в деревню Козыри, а следом за ним поспешил и батальон "Черная смерть". Метрах в 400-х от партизанской засады жители Козырей валили лес. Староста заставил их делать это и расчищать дорогу, опасаясь нападений партизан на обозы и колонны. Каратели не стали преследовать партизан, а решив, что существует связь между нападающими и расчищающими лес, взяли жителей Козырей и погнали по шоссе. Из Плещениц навстречу шел полицейский батальон. Узрев этих головорезов, женщины, старики, дети на свой риск и страх стали убегать в лес. Начальник штаба Васюра приказал стрелять, чтобы ни один не остался в живых. 27 человек расстреляли, раненых добили. Пятнадцатилетняя девочка Надя Шалупина, в которую попало четыре пули, все же спряталась в кустах, выжила и обо всем рассказала на судебном процессе. Уцелел в той бойне и еще один свидетель — ее дедушка.

Каратели добрались до места партизанской засады и следы стреляных гильз вывели их к Хатыни. Прочесав лес, никого не обнаружили. Тогда в полдень 22 марта батальон оцепил Хатынь, окружил двойным кольцом полицаев. Всем распоряжался Григорий Васюра. Приказал согнать жителей в большой амбар, закрыть и поджечь, а сам вооружился автоматом и пистолетом и стрелял в людей. Напротив дверей сарая поставил пулемет и приказал пулеметчику Катрюку (кстати, он жив и безбедно доживает старость в Канаде) расстреливать всякого, кто попытается выскочить из огня.

Не могу сказать, что немцы не причастны к трагедии Хатыни. Они были подручными полицейского батальона и присутствовали в деревне с начала карательной операции. Но главным исполнителем трагедии стал Васюра. На сегодняшний день мы знаем имена наиболее ретивых исполнителей, но стоит ли называть их по именам, разве есть они у двуногих зверей? Во время следствия по делу Васюры работники прокуратуры и органов госбезопасности отыскали всех оставшихся в живых полицейских и вместе с ними прошли по тем местам, где оставил кровавый след 118-й батальон. То было страшное признание... Нашли сотни потерпевших и свидетелей, имели неопровержимые доказательства злодеяний Васюры и его подручных. Так что любая попытка скрыть правду — это преступление против своего народа. Я не раз приезжал в Хатынь, показывал экскурсоводам материалы, рассказывал, как это было, но потрясающая сила заведенной некогда пропагандистской машины сделала свое дело. Как ни просил их не врать, люди опять слышат вранье о рассветном утре 22 марта, о зверствах дерливангеровцев, о литовцах, жегших Хатынь и прочем-прочем... Горькая и такая нежеланная правда о том, что Хатынь жгли "свои", все еще завоевывает право быть сказанной.

*Прыкметы рынку*

## За права на працу трэба пазмагацца

**Колькасць свабодных рабочых месцаў у народнай гаспадарцы рэспублікі скарацілася за апошні год больш чым удвая.**

Калі на пачатак мая 1992 года па статыстычнай справаздачнасці значылася больш як 40 тысяч вакансій, то сёння толькі 17 тысяч.

За першыя чатыры месяцы 1993 года колькасць працуючых на прадпрыемствах, у арганізацыях, калгасах зменшылася на 220 тысяч чалавек. Гэта 5 працэнтаў ад агульнай колькасці працуючых. За гэты ж перыяд каля 188 тысяч чалавек было прынята на работу, што складае 85 працэнтаў ад колькасці выбыўшых работнікаў.

Тым не менш за права працаваць многім яшчэ трэба будзе пазмагацца. Паводле падлікаў Дзяржаўнага камітэта па статыстыцы і аналізу, у маі—ліпені 1993 года з прадпрыемстваў і арганізацый рэспублікі мяркуецца выслабаніць больш за 7 тысяч чалавек.

**Белінфарм.**

*З пошты*

## Памятаюць пра нас не толькі на Вялікдзень

Я амаль сляпая, муж зусім не можа хадзіць. Калі-небудзь так хочацца апынуцца ў касцёле, але ніяк нельга гэта ажыццявіць з-за нашай немачы. Дзякуй Богу, да нас прыходзяць вернікі і клапоціцца пра нас сам айцец Уладзіслаў. Прыносіць нам ежу, адзенне. Жыццё стала цяплейшым і прыгажэйшым. Дзякуй Богу і айцу Уладзіславу за гэта.

**Ядвіга і Мікалай КАХАНОЎСКІЯ.**

*Нам стала вядома*

## Калі тайнае стане яўным...

**Устаноўлены парадак доступу да архіўных дакументаў грамадзян Рэспублікі Беларусь і замежных дзяржаў, а таксама прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, грамадскіх аб'яднанняў.**

Дакументы, што паступілі ў дзяржаўныя архівы, могуць быць выдадзены ўсім вышэйназваным фізічным і юрыдычным асобам толькі пасля 30 гадоў з часу іх стварэння. Але толькі ў тым выпадку, калі іншае не прадугледжана двухбаковым пагадненнем.

Для дакументаў Дзяржаўнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусь, што закранаюць інтарэсы рэспублікі, а таксама змяшчаюць дзяржаўную, ваенную, камерцыйную ці іншыя тайны, што ахоўваюцца законам, могуць быць устаноўлены абмежаванні ў карыстанні. Зацікаўленыя ў гэтым арганізацыі і грамадзяне абавязаны кожныя 5 гадоў падаваць у архіўныя ўстановы абгрунтаванні захавання дакументаў на тэрмін больш як 30 гадоў. Пры невыкананні гэтага патрабавання матэрыялы выкарыстоўваюцца на звычайных умовах. Агульны тэрмін абмежавання карыстання дакументамі не можа перавышаць 50 гадоў.

Грамадзяне, якія з'яўляюцца ўласнікамі архіўных дакументаў, маюць права абумовіць нераскрыццё іх зместу ці абмежаваць доступ да іх на тэрмін да 75 гадоў. Уласнік дакументаў пры перадачы іх на захаванне ў дзяржаўны архіў павінен пісьмова папярэдзіць архіўную ўстанову, якія звесткі, змешчаныя ў іх, не падлягаюць выдачы.

Адзначым, што адмова ў доступе да архіўнага дакумента можа быць абскарджана грамадзянінам ці юрыдычнай асобай у вышэйстаячыя органы ці ў суд.

**Паўлюк ЗАВЕЯ.**

## "Канфедэрацыя" баставаць не будзе

**Па заяве старшыні кантрольна-экспертнай групы незалежнага прафсаюза "Канфедэрацыя працы" Алега Шакалава, гэты прафсаюз не мае намеру ў дадзены момант весці актыўную дзейнасць адносна нядаўняга рашэння ўрада адпусціць цэны на асноўныя прадукты харчавання і жыллёва-камунальныя паслугі.**

"Любы заклік да забастовак з нашага боку — гэта не выйсце з сітуацыі. Больш таго, гэта магло б стварыць для нас вельмі неспрыяльны прэцэдэнт і паслужыць прычынай для ўдушэння свабодных прафсаюзаў", — заявіў А.Шакалаў. На яго думку, адзінае, да чаго цяпер будзе заклікаць "Канфедэрацыя працы" працоўныя калектывы, — гэта да перагляду калектыўных дагавораў з адміністрацыяй.

**Аляксандр ЛІМАНОЎСКІ, Белінфарм.**

## Все реки текут. Но не по всем ходят пароходы

**Несколько дней назад белорусский речной флот перестал совершать рейсы по Березине.**

Связано это с тем, что в прошедшие жаркие недели резко упал уровень воды в этой реке. В результате тяжело груженные составы судов и рудовозов из-за множества возникших мелей не смогли дойти до Бобруйска — основного порта-получателя на Березине.

Как сообщил начальник службы перевозок Белорусского речного пароходства Виктор Карпович, на днях закрывается еще одна линия: речники перестанут транспортировать грузы вверх по Днепру до Могилева.

**Анатолий РОМАНОВ.**

*З афіцыйных крыніц*

## Перайменаванні

У сувязі з тым, што мы сёння не будуем ні сацыялізму, ні камунізму і маем сваю незалежную дзяржаву, перайменаваны многія рэспубліканскія дзяржаўныя архіўныя ўстановы.

Цэнтральны дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР — у Беларускі дзяржаўны архіў;

Цэнтральны дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў БССР — у Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў;

Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў БССР — у Беларускі дзяржаўны гістарычны архіў;

Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР — у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва;

Беларускі навукова-даследчы цэнтр дакументазнаўства і рэтраінфармацыі — у Беларускі навукова-даследчы цэнтр дакументазнаўства і архіўнай справы;

Цэнтральны дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі — у Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі;

Цэнтральная лабараторыя мікрафотакапіравання і рэстаўрацыі дакументаў цэнтральных дзяржаўных архіваў Беларусі — у Цэнтральную лабараторыю мікрафотакапіравання і рэстаўрацыі дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусь.

*Памолімся, браце...*

## На Бога спадзявайся, а грошы ў Кебіча прасі...

**Вернікам дапамагае не толькі Бог, але і беларускі ўрад. Не ведаем, ці маліліся за яго святары, але грошы ім нядаўна з рэзервовага фонду Саўміна выдзелены немалыя.**

Беларускаму экзархату на рамонт і рэстаўрацыю будынкаў пад Еўрапейскі гуманітарны універсітэт, духоўную акадэмію і вучылішча, на будаўніцтва храма ў гонар іконы Божай Маці "Усіх тужлівых радасце", храма-помніка ў гонар усіх святых, на правядзенне юбілейных урачыстасцей, прысвечаных 200-годдзю Мінскай епархіі, а таксама на аснашчэнне медыцынскага цэнтра "Самаранін" дасталося 70 мільёнаў рублёў. Саюзу евангелісцкіх хрысціян-баптыстаў Беларусі — 40 мільёнаў рублёў на будаўніцтва дома састарэлых.

Больш таго, у парадку выключэння газета "Царкоўнае слова" вызвалена ад выплаты ўсіх відаў падаткаў. Можа, Бог параіць прэм'еру такое зрабіць і ў адносінах да "Народнай газеты". Памолімся, браце...

**Ігнат КРЭМЕНЬ.**

